*На мяжы — новыя дэкларацыі (стар. 2)*
*Будаўніцтва жылля: ці прыжывецца ў нас еўрапейскі вопыт? (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны радактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 45.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

20 лютага 1996 г. № 12 Кошт свабодны

## Падпісчыкі выйгралі працэс

**Баранавіцкі суд разгледзеў зыскі 20-ці падпісчыкаў "Народнай волі", якія запатрабавалі, каб дзяржаўная пошта кампенсавала ім матэрыяльныя і маральныя страты за незаконнае спыненне дастаўкі выпісанай імі газеты.**

Суд прызнаў прэтэнзіі падпісчыкаў абгрунтаванымі і вынес рашэнне, згодна якому пошта абавязана кожнаму з двацаці падпісчыкаў выплаціць па 200 тысяч рублёў у якасці кампенсацыі за маральны ўрон і вярнуць грошы, узятыя за падпіску.

Гэта першы факт, калі чытачам удалося выйграць судовы працэс. Як паведаміў СВАБОДЗЕ галоўны радактар "Народнай волі" Іосіф Сярэдзіч, у судах Мінска ды іншых гарадоў знаходзіцца яшчэ каля 500 заяваў падпісчыкаў, аднак суды чамусьці марудзяць з іх разглядам. Тым часам "Народная воля" працягвае выходзіць кожны тыдзень (па чацвяргах). Яна друкуецца па-ранейшаму ў Літве і распаўсюджваецца праз альтэрнатыўныя структуры. Як заявіў Іосіф Сярэдзіч, "Народная воля", нягледзячы ні на якія забароны, "выходзіла і будзе выходзіць".

М.Г.

## Сямён Шарэцкі супраць ліквідацыі Канстытуцыйнага суда

*"Я адмоўна стаўлюся да ліквідацыі Канстытуцыйнага суда", — падкрэсліў учора старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі на прэс-канферэнцыі.*

Гаворачы пра сваё стаўленне да вядомай прэзідэнцкай ініцыятывы, ён сказаў: "...Запэўніваю вас, што такая ідэя ў маёй галаве і не ходзіць". Спікер парламента, аднак, вельмі асцярожна і няпэўна выказаўся наконт яшчэ адной лукашэнкаўскай ініцыятывы — аб рэферэндуме па зменах у Канстытуцыі. "У Канстытуцыі сапраўды ёсць пытанні, да якіх трэба вяртацца," — заявіў С.Шарэцкі.

Вядома, што некалькі дзён таму Шарэцкі пажадаў адкліканы з КС усе справы, ініцыятарамі якіх выступаў яго папярэднік Мечыслаў Грыб. Валерый Ціхіня вярнуў спікеру яго заяву з просьбай абгрунтаваць яе. Шарэцкі патлумачыў журналістам сваё паводзіны наступным чынам: "Гэта не самая добрая практыка, калі ўсе пытанні паміж выканаўчай і заканадаўчай уладай вырашаюцца праз пасярэдніка — Канстытуцыйны суд. Лепей было б, калі б мы разам — парламент і прэзідэнт — выходзілі на Канстытуцыйны суд". Цікава, як доўга працягнецца вера Шарэцкага ў магчымасць "каструктыўна" супрацоўнічаць з прэзідэнтам.

Алесь ГАНКОВІЧ

## Колькі каштуе такая «дробязь», як сімволіка

**Вайскоўцы Гродзенскага памежнага атрада рыхтуюцца змяніць шэўроны ды іншыя эмблемы.**

Новую сімволіку замовілі вырабіць фабрыцы ў Санкт-Пецярбургу. Каштаваць такая "дробязь" будзе 76 тысяч долараў. Гэта толькі для аднаго атрада. А калі палічыць, колькі наогул людзей у нас носіць форму...

Антон БАЗЫЛЕВІЧ

# Ключ ад сейфа ў прэзідэнцкім «кулачку»

**Прагноз, выказаны СВАБОДАЙ (№ 9, ад 9 лютага), цалкам пацвердзіўся: 15 лютага ўказам прэзідэнта Тамара Віннікава прызначана старшынёю праўлення Нацыянальнага банка.**

У чарговы раз парушаючы прававыя нормы, закладзеныя ў заканадаўстве, А.Лукашэнка паставіў на пост галоўнага банкіра свайго чалавека, з якім у яго аднолькавае (ці, па меншай меры, яму так здаецца) бачанне перспектываў развіцця банкаўскай сістэмы Беларусі. Відавочна, што прэзідэнту патрэбны "кішэнны" Нацбанк, які пакорліва будзе выконваць любыя, самыя арыгінальныя ідэі "галоўнага эканаміста нашай краіны", аж но да нацыяналізацыі камерцыйных банкаў, пра што "бацька" наўрад ці забыўся.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй адстаўку С.Багданкевіча, які склаў з сябе паўнамоцтвы старшыні праўлення НБ яшчэ восенню, павінен зацвердзіць парламент. Хаця С.Багданкевіч з моманту сваёй адстаўкі не выконвае функцыі шэфа Нацбанка, фармальна ён да гэтага часу з'яўляецца яго кіраўніком. Узнікаюць працэдурныя недарэчнасці: з 15 лютага ў Беларусі два старшыні праўлення Нацыянальнага банка. Першы прызначаны парламентам, другі — прэзідэнтам. Як да гэтага паставіцца Вярхоўны Савет?

Сама сп.Віннікава, разумеючы, што яе рэйтынг сярод дэпутатаў не такі высокі, як у прэзідэнцкіх колах, не вельмі аптымістычна расцэньвае свае шанцы быць зацверджанай Вярхоўным Саветам на новай пасадзе. Тым не менш, без згоды самой Віннікавай наўрад ці адбылося б падпісанне ўказу.

Такім чынам, гэтае прызначэнне можа выклікаць чарговы канфлікт паміж парламентам і прэзідэнтам.

Сяргей ФЛАРЫЯНАЎ

## Беларуская царква вяртаецца дамоў

**15 лютага ў Гродне ў праваслаўным саборы адбылася паніхіда з нагоды ўгодкаў вываду савецкага войска з Афганістана. У той жа дзень у саборы быў пасвечаны ў сан епіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага протаіерэй аднэй з мінскіх цэркваў Арцёмій. Ажыццявіў працэдуру мітрапаліт Філарэт.**

Епіскапская пасада ў Гродне была вакантнай амаль два гады. Што ж менавіта цяпер прымусіла Мінскі Экзархат прызначыць сюды новага епіскапа? 16 лютага мітрапаліт Філарэт папрасіўся на прыём да старшыні аблвыканкама А. Дубко і меў з ім сур'ёзную гутарку. Што было яе зместам, можна здагадацца. Напрыклад, сенсацыйная падзея, якая адбылася нядаўна ў Лідзе. У апошнім нумары газета *"Пагоня"* паведаміла аб тым, што лідская парафія св.Панцеляймона выйшла з-пад юрысдыкцыі Беларускага Экзархата Маскоўскай патрыярхіі. З Афонскай гары ў Грэцыі сюды дастаўлены мошчы св.Панцеляймона і асвечаны аднайменны храм. Такім чынам, у Лідзе з'явілася першая на Беларусі парафія Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якая існуе ў свеце і не залежыць ад Масквы. Газета таксама паведамляе, што ўсяго выйсці з-пад юрысдыкцыі Маскоўскай патрыярхіі жадаюць каля 15 беларускіх парафій.

Антон БАЗЫЛЕВІЧ

## Міліцыю «кінулі» ратаваць сельскую гаспадарку

Пасля пашыранай калегіі Кабінета міністраў, дзе абмяркоўвалі сітуацыю ў аграрным сектары краіны, міністэрству ўнутраных справаў даручылі ўзмацніць кантроль за гэтай галіной эканомікі.

У прыватнасці, Галоўнае ўпраўленне крымінальнай міліцыі МУС накіравала начальнікам абласных упраўленняў унутраных справаў загад неадкладна падсумаваць інфармацыю аб злоўжываннях, растратах і іншых правапарушэннях, учыненых кіраўнікамі сельгаспрадпрыемстваў. Цалкам верагодна, што гэтая шырокамаштабная аперацыя з'яўляецца пачаткам "чысткі" сярод старшынь і дырэктараў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

СІМ

## Знайшлі занятак

На мінулым тыдні штаб-кватэра Брэсцкай філіі БНФ стала аб'ектам пільнай увагі міліцыі.

Прычына ў тым, што на офісе Народнага фронта вывешаны "незаконны" сцяг. І хаця ў штаб-кватэры міліцыянтам папулярна патлумачылі, што белчырвона-белы сцяг афіцыйна зарэгістраваны ў Статуце БНФ у якасці сімволікі Фронта, прадстаўнікі органаў назвалі гэта парушэннем Адміністрацыйнага кодэкса і склалі пратакол на кіраўніка абласной арганізацыі У.Базана.

А.М.

# Нацыя радыкалаў

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

*Здаецца, беларусы — самыя антыкансерватыўныя людзі ў свеце*

Сярод усіх стэрэатыпаў, што прышчэпліваюцца нашай нацыі, самы трывалы — гэта міф аб кансерватыўнасці, непарушнасці памяркоўных беларусаў. Пры гэтым панюцце "кансерватар" звычайным абывацельскім разуменнем успрымаецца абсалютна неадэкватна свайму сапраўднаму зместу. Дайшло да таго, што даследчыкі і палітолагі ўсур'ёз выводзяць такія панюцці, як "савецкі кансерватызм", "камуністычны кансерватызм" і г.д. У такіх выпадках мне міжволі ўзгадваецца вядомы анекдот пра Пецьку, які выводзіў слова "кансерваторыя" ад "аднакарэннага" "кансервы".

Калі муж забараняе сваёй жонцы насіць кароткую спадніцу — гэта яшчэ не кансерватызм. Кансерватызм — гэта светапогляд, сістэма прынцыпаў і падыходаў, гэта палітычная плынь, якая перамагла ў многіх краінах свету. Кансерватары ў Брытаніі (Тэтчэр, Мейджэр), рэспубліканцы ў Амерыцы (Буш, Рэйган), хрысціянскія дэмакраты ў Германіі (Коль), правыя ў Францыі (Шырак) — вось самыя буйныя сучасныя прадстаўнікі сусветнага кансерватызму.

Кансерватары вельмі асцярожна стаўяцца да абсалютнай свабоды, яны ўпэўнены, што чалавек — істота недасканалая, што грамадства не можа трымацца толькі на хаатычных памкненнях асобных індывідуумаў. Людзям павінна нешта дабрахвотна аб'ядноўваць для нармальнага і бяспечнага суіснавання — традыцыя, культура, нацыя. Ва ўсім свеце кансерватары вызначаюць асаблівая павага да такіх інстытутаў, як **сям'я, рэлігія, гісторыя, нацыя, дзяржава, уласнасць, законы.**

Кансерватарам заўсёды проціставілі радыкалы, рэвалюцыянеры, камуністы ў самых розных абліччах, якія імкнуліся ўсё абагульніць, аб'яднаць, зліць — мовы, дзяржавы, культуры, гаспадаркі. Яны не маюць нацыі, называючы сябе альбо "савецкімі", альбо "касмапалітамі", не маюць уласнасці, таму імкнуцца, каб і ў другіх яе не было.

Варта толькі ўважліва паасобку прааналізаваць адносіны беларусаў да кожнай з вышэйназваных кансерватыўных каштоўнасцяў, каб зразумець, наколькі далёкія мы ад кансерватызму ў сусветным разуменні гэтага слова.

Такім чынам...

(Працяг на стар. 2)

# Строительство жилья: приживется ли у нас европейский опыт

Волны политических и экономических преобразований постепенно смыли из нашей жизни последние остатки такого понятия, как государственное жилье (жилье, построенное за счет средств государства). Ход событий привел нас к тому, что бесплатное жилье может получить теперь лишь крайне узкий круг льготников — людей, обремененных тяжелыми заболеваниями или имеющих исключительные заслуги, а также кое-кто из начальства. Остальные граждане Беларуси оказались перед фактом, что за жилье надо платить, причем немалые деньги.

Единственный способ, при помощи которого в последние два года можно было построить новую квартиру, — долевое участие в строительстве. Он предполагает внесение стоимости квартиры в течение срока строительства, а зачастую и оплату всей суммы вперед. Учитывая незначительное количество наших граждан, обладающих весомыми суммами денег (или способных их заработать за короткий период), этот сектор строительного рынка начал себя исчерпывать. К этому добавляется неумолимый рост конкуренции и цен на строительство, связанный с плавным сближением их с мировым уровнем. Буквально за несколько лет "новые белорусы" удовлетворили свои потребности в жилье. Дальше пошла борьба за тех клиентов, которые готовы были платить за роскошные апартаменты: квартира на весь этаж, коттедж в трех уровнях с гаражом в подвале...

Однако постепенно и этот, хоть и лакомый, но очень тонкий "кусок пирога" закончится. Те, кто это понял раньше и осознал, что наиболее стабильный бизнес делается в сфере массового строительства, стали постепенно обращаться к менее обеспеченному инвестору, способному заплатить за квартиру лишь с большой рассрочкой. И интерес этот не случаен. На каждом из таких инвесторов много не заработаешь, но если учесть их количество... Ведь ни для кого не является секретом, что в очередях на получение квартиры миллионы наших граждан томятся по десять и более лет.

Перспектива укрепиться в стабильно прибыльной и долгосрочной сфере бизнеса, каковой являeтся массовое жилищное строительство, привлекла внимание крупных белорусских фирм. Одна за другой на белорусском рынке жилья стали появляться инвестиционно-строительные фирмы, дающие возможность инвестору платить за жилье гораздо дольше, чем оно строится. Они тоже соревнуются, но уже не качеством строящегося жилья (дома в основном типовые), а набором финансовых послаблений и гарантий, предоставляемых заказчикам.

В странах с развитой экономикой имеется немало способов строительства жилья, в которых предусмотрен длительный (от 5 до 50 лет) период выплаты полной его стоимости. Наиболее отработаны и зарекомендовали себя два из них: американская ипотека и европейская система стройсбережений.

Американская ипотека — кредитование под залог недвижимости. Есть нечто похожее и у нас, причем давно. Это система ЖСК. В самом деле, после внесения первого взноса участнику этой широкомасштабной программы предоставлялся долгосрочный кредит с первой выплатой процентов через год после вселения. Правда, не предусмотрен залог по кредиту. Но система "тормозит" не из-за этого. Даже классическая ипотека, в неурезанном виде, у нас пока не прижилась бы. Трудности на ее пути связаны не только с отсутствием целого ряда законов, но и с крайне слабой развитостью рынка ценных бумаг, в частности — рынка жилищных закладных, без свободного обращения которых ипотечно-кредитная система претерпевает финансовое голодание. Ипотечные банки в Америке черпают ресурсы для выдачи следующих кредитов именно из продажи закладных по предыдущим кредитам, продажи тем, кто хочет вложить свободные средства в выгодные и надежные ценные бумаги. Это, естественно, значительно сужает круг возможностей наших граждан в получении жилья. Однако Европа не так далеко от нас, как Америка, и ее система также весьма привлекательна.

В Западной Европе, особенно в Германии, на предварительных накоплениях граждан основываются широко применяемые и поистине национальные системы стройсбережений. Практически с рождением ребенка жители этой страны начинают вносить деньги на специальный накопительный счет. По прошествии ряда лет повзрослевшие дети вселяются в новую современную благоустроенную квартиру. Однако ни одна из действующих в Европе систем не является чисто накопительной системой. Будь это так, желающих участвовать в них было бы немного. Гражданин, имеющий накопительный счет в банке стройсбережений, собирает на нем лишь часть стоимости необходимой ему квартиры, обычно около половины. Как только он этот рубеж преодолевает, на вторую половину ему предоставляется очень льготный, долгосрочный кредит. И этот кредит помогает ему безболезненно выплатить оставшуюся сумму за квартиру.

Почему кредит льготный? Дело в том, что все время, пока интересующий нас вкладчик накапливал первую половину, его вклад использовался банком для льготного кредитования других вкладчиков, взнос которых уже перевалил за половину. Теперь, на второй части дистанции, кредитуют его. Но не за счет вновь прибывших (в таком случае это была бы "пирамида"), а за счет тех, кто получил кредит раньше и теперь, вселившись в новую квартиру, по нему расплачивается. Действует принцип взаимокредитования, позволяющий использовать жилищные накопления граждан только со строго определенной целью — на строительство и приобретение жилья для вкладчиков — и с максимальной эффективностью, ибо деньги все время в работе.

Именно такого рода опыт все глубже проникает в сферу строительства жилья в нашей стране. Теперь целый ряд фирм предлагает те или иные интерпретации этой схемы. Это такие компании, как "Автотэкс", "Белсэкай", концерн "Минскстрой". В последнее время к этой группе примкнула инвестиционно-строительная ассоциация "Рациональный дом", поддержку которой оказывает министерство архитектуры и строительства.

Подробно о достоинствах и недостатках систем, предлагаемых этими организациями, мы расскажем в следующем номере. Закончить эту статью хотелось бы констатацией того, что постепенно рыночный механизм начинает оживлять все новые сферы нашей жизни и, в частности, строительство жилья, без которого не может быть здоровой нации собственников и хозяев.

**Сергей ФЛОРИАНОВ**

## «Белорусский президент не заслуживает уважения»

**Под таким красноречивым заголовком крупная канадская газета *"Globe & Mail"* поместила статью о последних событиях в нашей стране. Московский корреспондент этой газеты Джеффри Йорк пишет, что, когда белорусские журналисты видят на экранах мониторов в пресс-центре Верховного Совета своего президента, они начинают смеяться.**

**Далее канадская газета приводит широко известные факты притеснения независимых средств массовой информации в Беларуси и враждебности президента** по отношению к любому инакомыслию. **"Усилия Лукашенко доминировать во всех аспектах жизни общества проявляются даже в Верховном Совете, где он вмешивается в законотворческий процесс при любой возможности". Однако Дж.Йорк считает, что методы прямого вмешательства "этого популиста" провалились. В том числе, это проявляется в отношении к нему со стороны независимых СМИ и лидеров оппозиции. "Он просто не находит уважения среди своих оппонентов", — пишет газета. "Лукашенко считает себя загнанным зверем среди врагов, что говорит о его паранойе", — пишет газета и приводит факты его панической боязни этих врагов, от которых он "скрывается в бронированном "Мерседесе", окруженный целой армией офицеров милиции и телохранителей". По сообщению газеты, один из западных дипломатов, аккредитованный в Минске, сказал: "Либо вы за него, либо против. Если вы против, вас нужно уничтожить. Если он расправился с одним врагом, он тут же находит двух новых".**

**Подготовил Глеб ЕРМАКОВ**

ПОЛЕМИКА

# Возвращаясь к «Мыслям в переулках...»

*Отклики на статью В. Евдокимова (СВАБОДА, № 8)*

Неудачу БНФ на выборах многие продемократически настроенные авторы объясняют ошибочным применением идей и методов по образцу прибалтийских народных фронтов. Но у программы БНФ не меньше сходства с программами подобных движений Украины, Молдовы и др.

На мой взгляд, беда БНФ не столько в копировании стратегии фронтов Прибалтики, что, якобы, отпугнуло значительные продемократические слои, сколько в отношении этих слоев к белорусскому национально-освободительному движению. Местные денационализированные демократы из образованных слоев (как и те, кто приехали в Беларусь издалека) продолжали воспринимать новое Возрождение как явление неуместное, преждевременное, как затею узкого круга деятелей культуры и искусства. Обладая значительным положением в общественно-политической жизни, эти круги передали свою позицию публике попроще (благо, власти были в этом заинтересованы). Весь их демократический заряд был затрачен на поддержку борьбы БНФ с 6-й статьей Конституции СССР о ведущей роли КПСС. Видимо, оттеснение от власти опостылевшей партноменклатуры было единственной целью их союзничества с БНФ.

Аналитики деятельности БНФ из этих кругов уделяют очень мало внимания серьезным программным целям Фронта, охватывающим основные проблемы государственного строительства Беларуси и реформирования экономики. Что было верно, а что ошибочно? Что и почему сегодня осуществлено, хотя БНФ не входил во властные структуры? Что и почему осталось невостребованным? Аналитиков это как бы не интересовало, они больше занимались муссированием мифов вроде знаменитого "изучи мову (?!), а затем приходи к нам". А ведь БНФ требовал от своих сторонников не самого **знания** белорусского языка, а **признания** его права на подлинную, а не декларируемую государственность и на подобающее место в жизни общества.

Предательство национальных интересов образованными слоями Беларуси, их постоянное отмежевание от проблем нации, сервильность, доведенная до мании самоликвидации, "избавила" их от множества хлопот, свойственных ведущим группам общества нормально развивающихся государств. В такой ситуации остается одна цель — экономическое благополучие, можно сказать, на бытовом уровне. Но уходя от общественно-политических процессов, невозможно влиять на экономические, тем более себе на пользу. Такой кругозор естественно приводит к блистательному неучастию в выборах, преподнося при этом низкую политическую культуру как неудовлетворенную взыскательность.

Так где же взять Фронту силы, если образованные слои не способны не то что выполнить, а осознать свою политическую роль? Не сектантство БНФ первично. Первична вот эта политическая незрелость. В ней истоки узкой социальной базы Фронта, хронической "нехватки кадров", невозможности организовать надлежащую пропаганду, свою прессу. Немногое способны сделать идеалисты-любители в серьезной политической борьбе. Не удивительно, что нередко верх берут неподготовленные люди, что возможен дух сектантства, ограниченность и беспомощность.

И ничего удивительного в том, что Фронт не может самореформироваться. Это ведь общественная организация. Для этого нужны свежие силы и новые мысли. Но и того, и другого предлагается обществом столь же мало, сколь мало было поддержки БНФ в начале его борьбы с тем, что казалось незыблемым, за то, что казалось недостижимым.

Фронт не может реформироваться указом Позняка или даже решением Сойма. Он станет преобразовываться приходящими в него новыми и иными людьми при участии старых и прежних. И те, и другие должны это осознать и хотеть этого.

**Аркадий ЖУКОВСКИЙ,**
*58 лет, инженер-механик, Гродно*

С большим интересом прочел в 8-м номере вашей газеты статью господина В.Евдокимова "Мысли в переулках..." Большинство ее положений полностью соответствует и моим мыслям на ту же тему. Но вот вывод автора... Оказывается, народ начинает ощущать себя нацией только лишь с появлением в его среде Героя (Человека), пусть он будет даже и бандитом. Вот те раз! Да ведь такой же точки зрения придерживается и один известный в нашей стране поклонник Гитлера.

Может быть, если бы я жил в Лондоне, где в переулках мыслит г-н Евдокимов, то и я бы стал так думать. Но я живу в Минске, в районе Северного поселка, а рядом со мной живет народ, у которого не было легендарных героев (за исключением, разве что, Кармен), а он ощущает себя нацией, да еще какой! И все без исключения владеют своим языком. Вряд ли кто-нибудь припомнит особо выдающуюся фигуру у финнов, а они и нацией себя ощущают, и живут вроде не хуже наследников великого Петра и даже Чингизхана.

И если вдруг у нас появится свой Юлий Цезарь, то как бы нам не пришлось плакать в связи с отсутствием своего Брута!

**Л. МИНКИН,** *Минск*

ЗДАРЭННІ

## Як сын маці пахаваў

**На пачатку лютага ў Веткаўскім раёне здарыўся жахлівы выпадак.**

У вёсцы памерла жанчына. Яе адзіны сын звярнуўся ў сельскі Савет па дапамогу. Дзяржава дала грошы на пахаванне. Сын адразу пайшоў у краму і на ўсе грошы купіў гарэлкі. Астылае цела маці перацягнуў у халодную падпавець. Сядзеў у хаце, піў кожны дзень, аж пакуль праз тыдзень, літаральна на сёмы дзень, да яго не наведаліся суседзі. Жанчыну пахавалі на сродкі аднавяскоўцаў, але ж без удзелу сына.

Мікола КАЧАН

## Брагін можа спаць спакойна

**Каторы тыдзень гарадскі пасёлак Брагін перапоўнены жахлівымі чуткамі. Адны кажуць, што забілі мужчыну — на тэрыторыі райбальніцы знайшлі адсечаную нагу. Другія расказваюць, што сабакі аднекуль прыцягнулі галаву жанчыны. Балазе, напярэдадні ў раённай газеце міліцыя дала аб'яву, што знікла і адшукваецца работніца аддзела райстатыстыкі.**

Як бы там ні было, аднак аказваецца, сапраўды, дыму без агню не бывае. А пайшоў "дым" з раённай бальніцы. Здарылася няшчасце — у аднаго мужчыны цяжкая, невылечная хвароба — гангрэна нагі. Хірургі, ратуючы жыццё пацыенту, прыйшлі да адзінага рашэння: ампутаваць. Адрэзалі. А санітары, паленаваўшыся спаліць ампутаваную ў качагарцы, папросту выкінулі на вуліцу. Нагу тут жа знайшлі сабакі і пацягнулі па Брагіну. Першымі гэта заўважылі, як звычайна, дзеці. Нашпігаваныя дэтэктывамі, кінуліся ў міліцыю з нагою, здабыўшы здабычу ў цюцікаў. Там — пярэпалах. Чалавека забілі!

Следчыя кінуліся ў бальніцу за кансультацыяй. Лекары паглядзелі, пакруцілі знаходку і супакоілі міліцыянтаў: маўляў, гаспадар адрэзанай нагі ляжыць тут у хірургічным аддзяленні. Такая нага яму не патрэбна...

Мікалай КРУПЕЙЧАНКА

## Трафеі Другой сусветнай зноў страляюць

**Супрацоўнікі аршанскай міліцыі ў пасёлку Арэхава затрымалі групу мясцовых "гандляроў зброяй".**

У іх было выяўлена 35 гранат (Ф-1), процітанкавыя ружжы, вінтоўкі, аўтамат ППШ, вялікая колькасць снарадаў, патронаў і *15 кг тратылу.*

Начальнік аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Аршанскага ГАУС маёр Валіцкі сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што ўвесь гэты арсенал двое 20-гадовых хлопцаў адкопвалі ў навакольных лясах, якія амаль напакаваныя зброяй з часоў Другой *сусветнай вайны. А пошукамі кліентуры і збытам тавару займалася* 36-гадовая жанчына. Зброя, па словах маёра міліцыі, была прыгодная для карыстання.

"Баявы" бізнес даволі прыбытковая справа, і, як высвятляецца, ахвотнікаў ім займацца становіцца ўсё больш. Ёсць сярод іх і "ветэраны". Напрыклад, рабочы АТ "Орша" (былы завод "Легмаш") па працягу аж дзесяці апошніх гадоў вырабляў на заводскім абсталяванні пісталеты-ручкі. Затрымалі яго толькі цяпер. На кватэры гэтага народнага майстра знайшлі чатыры нерэалізаваныя "стваалы".

Валодзя ЯНЧУК

## Масква падкінула бомбу

На Гомельскім металургічным заводзе пры разгрузцы металалому была выяўлена 50-кілаграмовая авіябомба з узрывальнікам. Цікава, што гэтая партыя металалому была дастаўлена на пераплаўку аж з Масквы.

## Добрая была шапка...

Сёння, бывае, нападаюць нават на міліцыянтаў. Напрыклад, нядаўна пацярпеў капітан Заркевіч з чыгуначнага РАУС г.Гомеля. Невядомы хлопец сарваў з яго футравую шапку, калі капітан вяртаўся са службы. Дагнаць зламысніка не ўдалося.

## Выпадак на дарозе

На аўтадарозе Васілевічы—Ведрыч (Гомельская вобласць) старшыня Васілевіцкага гарсавета сп. Ацуда, кіруючы службовымі "Жыгулямі", наехаў на 37-гадовага беспрацоўнага Верамеева В.І. Ад атрыманых траўмаў пацярпелы памёр у бальніцы. Эксперты за паказала, што вадзіцель быў цвярозы.

Анатоль ЗАЕЦ





СПОРТ

# У Атланту — без Шэўчык

## Футбол

Нацыянальная зборная Беларусі матчам супраць зборнай Турцыі пачала падрыхтоўку да адборачнага турніра чэмпіяната свету. Гульня, на якой прысутнічала 25.000 заўзятараў, праходзіла ў Ізміры. Ужо на восьмай хвіліне сольны праход Валянціна Бялькевіча прывёў да дакладнага ўдара — 1:0. Пасля гэтага туркі перахапілі ініцыятыву. Вынікам такой гульні сталі два пенальці у вароты гасцей, адзін з якіх македонскі арбітр Кочаў "высмактаў з пальца". 2:1 — з такім лікам гаспадары вялі да перапынку. У другім тайме ініцыятыву перахапілі беларусы, якія хутка зраўнялі лік. За 15 хвілін да заканчэння матча туркі пасля розыгрышу штрафнога ўстанавілі канчатковы вынік — 3:2. Незадоўга да фінальнага свістка арбітра Бялькевіч — лепшы наш ігрок, які быў на полі, патрапіў мячом у штангу. Нягледзячы на паразу, наша каманда заслужыла ўвагі. Не будзем забываць, што зборная Турцыі — фіналіст чэмпіяната Еўропы, а па выніках мінулага сезона папулярны штотыднёвік *France Football* паставіў яе на 4 месца сярод амаль паўсотні еўрапейскіх нацыянальных дружын.

Чым лепш гуляюць нашы футбалісты, тым менш іх застаецца ў Беларусі. Футбалісты зборнай Юрый Шуканаў, Валерый Шанталасаў і Васіль Баранаў апранулі форму "Балтыкі" (Калінінград), а Уладзімір *Журавель — іерусалімскага* "Хапаэля". Сяргей Штанюк застаўся дынамаўцам, але цяпер — маскоўскім. Адразу некалькі клубаў Англіі і Іспаніі прэтэндуюць на Валянціна Бялькевіча, Аляксандра Хацкевіча і Пятра Кучура. Першых двух хацелі б бачыць у сваіх шэрагах і маскоўскія клубы "Дынама" і "Спартак". Лёс гэтых футбалістаў вызначыцца ў бліжэйшыя месяц-паўтара.

На мінулым тыдні не стала патрыярхаў сусветнага футбола Мікалая Старасціна і Боба Пэйслі. Мікалай Пятровіч Старасцін не дажыў тыдзень да свайго 94-годдзя. Ён вядомы як заснавальнік і арганізатар таварыства "Спартак", футбаліст і трэнер гэтага клуба і зборнай СССР. Старасцін хутчэй быў не трэнерам, а прэзідэнтам тых камандаў, дзе працаваў. Да апошніх дзён ён быў начальнікам ФК "Спартак". Нагадаем, што Мікалай Пятровіч быў старэйшым з квартэта братоў Старасціных. Усе яны гулялі ў футбол, больш паспяхова — Андрэй, але самы яркі след пакінуў Мікалай. Ён падараваў прыхільнікам футбола "Спартак", і яны яму за гэта ўдзячныя.

Пад кіраўніцтвам Боба Пэйслі англійскі "Ліверпуль" тройчы ў другой палове 70-х заваяваў Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў, па разу — Кубак *UEFA* і Суперкубак, шэсць разоў станавіўся чэмпіёнам Англіі. Ні да, ні пасля Пэйслі ніводны з англійскіх клубаў такіх вышынь не дасягаў.

## Лёгкая атлетыка

Фрэнкі Фрэдэрыкс з Намібіі не можа дачакацца Алімпіяды і штурмуе сусветныя рэкорды. У Фінляндыі ён абнавіў сусветнае дасягненне для залаў у бегу на 100 м — 10,05, а ў зале французскага Льевене адразу на 0,33 секунды палепшыў мінулагодні рэкорд алімпійскага чэмпіёна Лінфарда Крысці.

Фрэдэрыкс — чэмпіён свету 1993 года і срэбны прызёр 1995 якраз у бегу на 200 метраў. Другі выдатны лёгкаатлет — Сяргей Бубка там жа ўзяў з шастом 5 м 95 см — лепшы паказчык сезона. Вышэй і далей за ўсіх у свеце ў гэтым годзе скакалі кубінцы: Хав'ер Сатамаёр — у вышыню — на 2 м 38 см, Іван Педроса — у даўжыню — на 8 м 46 см.

## Тэніс

Адразу некалькі буйных турніраў вызначылі сваіх пераможцаў. У Сан-Хасэ (ЗША) Піт Сампрас вельмі лёгка справіўся з Андрэ Агасі — 6:2, 6:3 і пасля трохтыднёвай паўзы зноў узначаліў спіс мацнейшых тэнісістаў свету.

Паднімецца вышэй і француз Гі Фаржэ (52 месца ў рэйтынгу АТП), які перамог у фінале турніра ў Марсэлі (Францыя) свайго суайчынніка Седрыка Піаліна — 7:6, 6:4.

І ў Парыжы перамагла гаспадыня кортаў. Жулі Алар нечакана, у цяжкай барацьбе, але выйграла спачатку ў пятай ракеткі свету Анке Хубер (Гер*манія), затым у чацвёртай* — Івы Маёлі (Харватыя) — 7:5, 7:6 і завявала галоўны прыз.

## Шахматы

Чалавек пакуль яшчэ разумнейшы за машыну. Да такой суцяшальнай высновы мы можам прыйсці, пазнаёміўшыся з вынікамі шахматнага матча паміж чэмпіёнам свету Гары Каспаравым і суперкамп'ютарам *Deep Blue*, створаным спецыялістамі канцэрна *IBM*. Каспараў пасля паразы ў першай партыі перамог у другой, потым былі дзве нічыі, а на фінішы — дзве перамогі чэмпіёна свету. Намаганні чалавека, які абыграў камп'ютар, здольны пралічыць 200 мільёнаў хадоў у секунду, ацэнены ў 400 тысяч долараў — па 100 тысяч за кожнае ачко, якое ўдалося выйграць Гары Каспараву. Стваральнікам *Deep Blue* дасталося 100 тысяч.

Вельмі хутка шахматы свет атрымае новую каралеву — Жужу Полгар. Гэтая венгерская шахматыстка ўпэўнена перамагае ў паядынку з цяперашняй чэмпіёнкай кітаянкай Се Цзюнь. Пасля 12 партый лік быў 7,5:4,5 на карысць Полгар.

## Канькабежны спорт

Чэмпіёнамі свету ў спрынтарскім мнагабор'і на лёдзе ў Херэнвэна (Галандыя) упершыню сталі Крысцін Уіці (ЗША) і расіянін Сяргей Кляўчэня.

## Хроніка

Адна з лепшых у свеце спартсменак па скачках у вы*шыню мінчанка Тацццяна Шэўчык* абвінавачваецца ў карыстанні допінгам і будзе дыскваліфікавана міжнароднай федэрацыяй лёгкай атлетыкі. Летась Шэўчык заняла шостае месца на чэмпіянатах свету ў Барселоне (у закрытых памяшканнях) і Гётэборгу.

Сямён ПЛОЦ

ТЕСТ

# Как вы относитесь к своему возрасту?

В двадцать лет кажется, что вся жизнь впереди. Но проходят годы, вы становитесь старше. Но не все одинаково и адекватно оценивают прожитые годы. Предлагаем вам проверить, влияет ли ваш возраст на вашe поведение.

**1)** Считаете ли вы возможным завести ребенка после сорока лет?

*Y — конечно.*

*X — наверное.*

*Z — ни в коем случае.*

**2)** Вы лежите на пляже и замечаете рядом с собой нудистов: Вы...

*Z — собираете вещи и уходите.*

*X — слегка отодвигаетесь от них.*

*Y — лежите как ни в чем не бывало.*

**3)** Как вы относитесь к идее застраховать свою жизнь на двадцать пять лет?

*Y — такая мысль никогда не приходила вам в голову.*

*Z — вы уже так и сделали.*

*X — вы рассматриваете такую возможность.*

**4)** Как вы относитесь к тому, что школьники должны носить форму?

*Z — за.*

*Y — против.*

*X — вы не задумывались над этим.*

**5)** Как вы предпочитаете проводить отпуск или каникулы?

*Z — останетесь дома.*

*X — зимой — снег, летом — море.*

*Y — не пожалеете денег и проведете отпуск как можно веселее.*

**6)** Любите ли вы, когда вам рассказывают о своих приключениях?

*X — да, и даже верите в то, о чем рассказывают.*

*Y — да, даже добавляете еще больше "правдивых" деталей.*

*Z — совсем не любите.*

**7)** Вам больше по душе оказаться в компании:

*X — веселых людей.*

*Y — оригинальных людей.*

*Z — серьезных людей.*

**8)** Посещаете ли вы салоны красоты?

*Z — часто.*

*X — иногда.*

*Y — никогда.*

**9)** Решили ли вы, где проведете отпуск в следующем году?

*Z — да.*

*X — примерно.*

*Y — нет.*

**10)** Случается ли вам попадать впросак?

*Z — никогда*

*X — иногда.*

*Y — часто.*

Теперь подсчитайте свои результаты.

*Z = 0 X = 1 Y = 2*

**От 0 до 6 очков:** О да! Вы слишком много внимания уделяете своему возрасту. Вы повсюду ставите вехи, отмечая пройденный путь и напоминая себе, что время безвозвратно уходит. Вы аккуратно отмечаете все дни рождения, подписываете все фотографии. Вы живете, постоянно оглядываясь назад. Вы очень чувствительны к перемене погоды и с каждым днем ожидаете, что здоровье ухудшится. Вас даже не удивляют собственные слова: я так много прожил.

К черту годы. Главное — с увлечением заниматься тем, что нравится. Именно тогда вы почувствуете себя счастливым человеком.

**От 7 до 13 очков.** Обычно вам нужны благоприятные условия, чтобы время для вас остановилось, чтобы вы смогли забыть все удары судьбы. В минуты эмоционального подъема для вас не имеет значения, сколько вам лет — двадцать, тридцать или пятьдесят. И наоборот, когда дела идут из рук вон плохо, вам кажется, что время мчится с бешеной скоростью, и вам страшно смотреться в зеркало.

Постарайтесь быть более подтянутыми, не обращайте внимания на мнение окружающих. Когда нет настроения, сделайте себе новую прическу или сходите в театр. Впрочем, это можно и совместить. У вас хороший взгляд на жизнь, не давайте ему ухудшиться.

**От 14 до 20 очков.** Для вас главное — брать от жизни все. Она проходит от одного успешного события к другому. Каждый новый день отличается от предыдущего. То, что годы проходят, не приносит вам чувства горечи, вы с каждым проходящим годом чувствуете себя богаче. Браво!

Но выдержат ли эти прекрасные мысли испытание временем? Скорее всего, ведь вы видите в жизни только хорошее. Конечно, иногда у вас портится настроение, но вы не воспринимаете серьезно удары судьбы. Можно не сомневаться, что и в восемьдесят лет вы останетесь неотразимы.

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 45.000 (1-шы завод – 40.300)
Нумар падпісаны ў друк 19.02.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 222